*У Беларусі разгорнута падпіска на газеты і часопісы на II паўгоддзе. Не застаньцеся, калі ласка, без «Народнай Волі»!*

№№77–78
(3616–3617)

18 мая 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



ДОСЛОВНО

# Давайце мяса летам шмат есці не будзем

***17 мая рэзка — адразу на 35% — павысіліся гранічна максімальныя адпускныя цэны на ялавічыну і свініну. Не так шакіруюча, але таксама даражэюць малочная прадукцыя і хлебабулачныя вырабы.***

Згодна з пастановай Мінэканомікі ад 8 мая 2012 года №41, гранічныя максімальныя адпускныя цэны на

— малако, кефір, смятану, тварог, хлеб, хлебабулачныя вырабы павышаны на 10%,

— на ялавічыну і свініну — на 35%.

На хлеб і малочныя вырабы яны будуць павышаны ў два этапы: на 5% у маі і на 5% у чэрвені.

Калісьці, яшчэ на пачатку свайго прэзідэнцтва, Аляксандр Лукашэнка так вызначыў умовы "сацыяльнага кантракта" з насельніцтвам Беларусі: *"Нам такая дэмакратыя з гвалтам не трэба. Нам дэмакратыя трэба, калі чалавек працуе, атрымлівае хоць нейкую зарплату, каб і хлеба купіць, малачка, смятаны, тваражку, часам кавалачак мяса, каб накарміць дзіця і гэтак далей. Ну, з мясам ужо давайце летам шмат есці не будзем ".*

І хто цяпер асмеліцца сцвярджаць, што яго не папярэдзілі? З дэмакратыяй разабраліся, мяса летам давядзецца есці менш, а хлеб і малачко пакуль будуць каштаваць яшчэ па-боску.

Ілжывае проціпастаўленне каўбасы і свабоды, калі другое абмянялі на першае, абярнулася тым, што, падобна, не будзе ні таго, ні іншага.

**Дзмітрый ГАЛКО.**




**ТЫМ ЧАСАМ**

## *Цэны будуць расці*

Учора на прэс-канферэнцыі намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі **Васіль Казакевіч** заявіў, што цэны на малочную і мясную прадукцыю будуць павышацца і далей, але паступова.

*"У перспектыве мы павінны выходзіць на адзін узровень цэн з краінамі Мытнага саюза — Расійскай Федэрацыяй і Казахстанам",* — адзначыў Казакевіч.

# Каму верыць?

***Уладзімір СЯМАШКА, першы намеснік прэм'ер-міністра Беларусі:***

*"Мы ніколі не будзем прадаваць кантрольны пакет "Беларуськалія".*

*(Падчас размовы з журналістамі 15 мая 2012 г.)*

***Аляксандр ЛУКАШЭНКА:***

*"Мы гатовы, я ўжо які раз паўтараю, прыватызаваць нават "Беларуськалій", дзе рэнтабельнасць 70—100%. Але гэта пытанне цаны.*

*І цану мы назвалі — сёння гэта ўжо не 30 мільярдаў, а 32 мільярды долараў. Ахвотныя — прыходзьце.*

*Няма ахвотных. Ну што ж... Няма і няма. Прадпрыемства сёння працуе, людзі атрымліваюць заработную плату, мы гандлюем калійнымі ўгнаеннямі лепш, чым любая кампанія ў свеце".*

*(Падчас выступлення са штогадовым пасланнем парламенту і народу 8 мая 2012 г.)*

АКТУАЛІІ



*Святлана КАЛІНКІНА*

# Напарстачнікі

Нядаўна журналісты выявілі дзіўную рэч: беларускія цукеркі ў крамах Нью-Ёрка каштуюць значна танней, чым у мінскіх. Гэта пры тым, што іх трэба было давезці ажно праз акіян, заплаціць мытныя падаткі, разлічыцца з экспедытарамі, лагістамі, складамі і гэтак далей, і гэтак далей.

Як жа так? Чаму, да прыкладу, "Грыльяж у шакаладзе" гомельскага "Спартака" ў адным з самых дарагіх гарадоў свету каштуе 3 долары 99 цэнтаў (на нашы грошы 32 тысячы), а ў мінскім гіпермаркеце "Карона" гэткая ж каробка - 45.050 рублёў (5,6 долара). Што за клопат такі не пра свайго, а пра амерыканскага пакупніка, тым больш што заробкі ў амерыканцаў непараўнальна большыя за беларускія?.. Што гэта за эканамічныя законы такія, калі ажно ў Амерыку беларускай фабрыцы выгадна давезці цукеркі за 4 долары, а з Гомеля да Мінска — не.

Раней мы чулі, што цэны ў Беларусі растуць, бо расце курс долара. Такая сітуацыя не радасная, але зразумелая. Праўда, цяпер трэба, каб тыя, хто пры ўладзе, адваротнае тлумачылі: чаму павялічваюцца лічбы на цэнніках, нават калі курс долара пайшоў уніз?

Так, спецыялісты Белстата параўналі цэны ў снежні мінулага года, калі адзін долар каштаваў 8360 беларускіх рублёў, і ў красавіку, калі курс наблізіўся да 8000. Высветлілася, што цэны жылі па сваіх законах. Даражэлі нават элементарныя лекі айчыннай вытворчасці. Звычайныя вітаміны ў снежні каштавалі 1740 рублёў, у красавіку — 2340, упакоўка антыбіётыкаў вырасла ў кошце з 2290 рублёў да 3300, нават бінт каштаваў у снежні 2990, а стаў 3680 рублёў. Ну няўжо для гэтага бінта сярод зімы знайшлі партыю бавоўны новага ўраджаю?

Сказаць, што менавіта ў фармацыі склалася нейкая асаблівая сітуацыя, таму яе выпраўлялі ростам цэн, будзе няпраўдай. Бо даражэлі і айчынная мэбля, і веласіпеды, і газавыя пліты, і гадзіннікі... Ды амаль усё! Цяпер вось мяса — на 35%, хлеб і малако — на 10%. Можа, нам ужо зусім не есці, каб дзяржаве дагадзіць? Можа, перайсці на шчаўе? Дык не выключана, што ў адказ такія правілы збору таго шчаўя ўвядуць, так адрэгулююць, што ананасам трава падасца. Што-што, а гэта наша дзяржава ўмее!

Вось зараз з'явіліся на рынках першыя клубніцы. Беларускія — 60 тысяч за кілаграм, польскія — 30 тысяч. Паколькі яны вырошчваюцца ў паўднёва-заходніх раёнах, на мяжы з Польшчай, то, лічы, зямля адна і тая, клімат адзін і той, газ (у адрозненне ад Польшчы) мы купляем па цэнах, значна ніжэйшых за сусветныя, электраэнергія ў нас таннейшая, кошт угнаенняў меншы, заробкі і параўноўваць няма чаго... Дык чаму на выхадзе нашы раннія клубніцы па кошце значна перакрываюць польскія нават з улікам таго, што за польскія яшчэ мытныя зборы аплачаны? Гэта ж які "талент" трэба мець, каб так гаспадарыць!

Але пра "талент" выпусціць прадукцыю чым найдаражэй высокае начальства памоўчвае. Яны іншую адгаворку знайшлі. Дзіўную і ніяк не зразумелую эканамістам. Але нешта ж гаварыць трэба.

Ва ўсім свеце вытворцы на ўсялякія хітрыкі ідуць, каб зазваць пакупнікоў і прадаць свайго тавару як найболей. А нам цвердзяць, што трэба павышаць цэны, каб суседзі ўсё не павывозілі. Абсурд! Няхай суседзі вязуць, ядуць, носяць беларускае! Толькі радавацца гэтаму трэба, толькі марыць пра гэта. Тым больш што на самай справе гэта беларусаў дзівяць цэнамі крамы Беластока і ўкраінскія кірмашы. А калі ў нас увогуле нічога таннейшага, чым у суседзяў, не будзе, то яны і ездзіць сюды не будуць. Навошта?

На сённяшні дзень ёсць, праўда, некалькі катэгорый тавараў, на якія беларускія цэны сапраўды значна ніжэйшыя, чым у суседзяў. Напрыклад, гэта так званае "сацыяльнае малако". Толькі вось калі вы апошні раз яго бачылі ў нашых крамах?

Іншая сітуацыя з бензінам: ён на запраўках ёсць, і суседзяў па цэнах на паліва мы сапраўды не дагналі. Але ж бензін у нас і павінен быць дзешавейшым. Беларусь жа расійскую нафту без усялякіх экспартных падаткаў купляе, па "саюзнай ільгоце". Ды і заробкі мы не такія людзям плацім, як тая ж Польшча ці Літва. Дык як жа наш бензін можа каштаваць на іхнім узроўні, чаму мы рот на іхнія цэннікі разяваем? У нашых НПЗ бензін на выхадзе проста абавязаны быць больш танным. А калі выраўноўваць кошты, то спачатку трэба выраўняць зарплаты. А то заробкі мізэрна падымаюцца, а цэны — галопам.

Модны сёння плач пра катастрафічны вываз нашай прадукцыі, які патрабуе імгненнага адказу ростам цэн, гэта, па большасці, лухта. Бо адначасова з гэтым плачам былі адменены ўсе абмежаванні на вываз з краіны беларускіх тавараў (акрамя паліва), і, наадварот, захоўваюцца абмежаванні на ўвоз. Калі ў нас усё такое якаснае і таннае, то чаму ўлада так клапоціцца, каб, крый Божа, ніхто не ўвёз лішні кілаграм украінскіх цукерак, ці польскіх каўбас, ці літоўскіх сыроў і не падарваў тым самым бізнес беларускіх вытворцаў?.. Таму і клапоцяцца, што не вытрымлівае беларуская прадукцыя канкурэнцыі з суседзямі. Задорага яе нам прадаюць.

Шчыра кажучы, усе гэтыя маніпуляцыі з цэнамі — гэта ўвогуле не эканоміка. Гэта свядомая палітыка па здзіранні трох шкур са свайго народа, бо ніякі іншы падобнага рабіць з сабой не дазволіць. Куплялі б амерыканцы беларускія цукеркі па цэнах, вышэйшых за ўкраінскія ці расійскія? Не! І нават да продажу не прынялі б цукеркі з "задзёртымі цэнамі". А мы купляем. Бо ў нас іншага выйсця няма.

Такое адчуванне, што кіруюць беларускай сітуацыяй нейкія напарстачнікі. Ці так, ці гэтак, але ўсё роўна абдураць! І абавязкова пад словы пра клопат аб людзях, за якія мы ўсе павінны быць вельмі ўдзячнымі. Толькі вельмі дорага беларусам гэты "клопат" абыходзіцца.

У НУМАР!

# Каму сцягно, каму вантробы...

## *Учора падаражэла мяса. Ці ўзнік ажыятаж у крамах?*

Зранку вырашыў зазірнуць у гіпермаркет на Паўднёвым Захадзе — ГІПАПО. Па дарозе ўспомніў перайначаную байку ад Карцава і Ільчанкі: учора ракі па тры рублі — і такія вялізныя, а сёння па пяць — і такія мізэрныя... Ракаў у ГІПАПО не прадаюць — ні малых, ні вялікіх, затое мяса — навалам.

*"Бярыце, пакуль цэннікі не памянялі,* — шапнула на вуха мілавідная прадаўшчыца, — *заўтра як знойдзеце... Пакуль і свінінка па 55 тысяч, і тазасцегнавая частка ялавічыны па 89 тысяч..."*

Але ж чаргі ніякай. *"Мо людзі яшчэ не ведаюць пра пастанову ўрада узняць кошты на мяса на 35%?"* — таксама напаўшэпт пытаюся ў жанчыны. *"Відаць, так,* — пагаджаецца тая, — *але пасля абеду ўсё можа памяняцца: пенсіянеры зараз жа намалююцца — падбяруць усё, што па кішэні, ды і астатнія не ёлупні... Каму ж ахвота губляць капейчыну на роўным месцы?.."*

Пакуль гаманіў з жанчынай, то і чарга ўтварылася — не тое каб даўжэзная, але з паўтузіна душ. Пра павышэнне цэн — ні гу-гу, пакуль адно вывучаюць старыя "цэнавы іканастас". Праўда, адзін увішны дзяцюк, не перастаючы гаманіць па мабільніку (відаць, з жонкай раіўся), атаварыўся па поўнай: набраў і ялавічыны, і свініны, і нават фаршу. Як адышоў ад прылаўка-лядоўніка, то я адразу да яго... Пытаюся, прыкінуўшыся шлангам: ці праўда, браток, што цэны павысяць? Бачу, ты столькі мяса накупіў... Той ніяк не аслупянеў ад такога панібрацтва, а толькі выдыхнуў: *"Каб жа не павышалі заўтра, то ці парыўся б тут сёння?.. От жонка закамандавала, то цяпер буду ведаць, што ёсць сцягно і пачым капыты на студзень... Бяры і ты, пакуль лахва..."*

Вяртаючыся дахаты, успомніў яшчэ з народнага: як не наеўся, дык не наліжашся. Яно, канечне, правільна і нават мудра, што запас бяды не чыніць, але як ні імчы — не дагоніш. Усё роўна інфляцыя зад выставіць... Той-сёй, валодаючы інфармацыяй пра павышэнне цэн, можа, і сэканоміць якую сотню, але хіба гэта ўратуе ўшчэнт збяднелых пенсіянераў, нямоглых, адзінокіх, беспрацоўных, малазабяспечаных?

Учора яны маглі яшчэ дазволіць сабе акраец свінінкі ці мясныя рабрынкі, а як сёння — хіба што капыты ды вантробы. Але ж і на іх, халера, цэннікі іншыя намалююць...

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Рыначная эканомія

***Карэспандэнт "Народнай Волі" наведаў рэчавыя рынкі на мінскім стадыёне "Дынама" і ў польскім Беластоку, каб параўнаць цэны.***

З вуснаў высокіх афіцыйных асоб у апошні час нярэдка гучыць: цэны ў Беларусі будзем павышаць, бо ў суседніх краінах яны ў разы вышэйшыя... Так, па асобных пазіцыях у асобных краінах-суседзях кошты і на самай справе большыя, чым у нас. Напрыклад, паліва, цыгарэты, гарэлка ў той жа Польшчы значна даражэйшыя, чым у Беларусі. Але чаму ж тады беларусы, бы тыя мурашы, пракалалі сцяжынку ў суседні Беласток?

...Рэчавы рынак у Беластоку нечым нагадвае Чэрвенскі рынак у Мінску. Скажам так: далёкі ад ідэалу ў плане знешняга бляску. Ёсць невялікія павільёны, але шмат дзе гандляры раскладваюць тавар проста на сталах, прадаюць з машын.



Адразу кідаецца ў вочы, што тут шмат "кантор" — пунктаў абмену валюты. Пры гэтым на рынку, напэўна, самы лепшы курс у горадзе. Калі ў тым жа гіпермаркеце "Аўшан" за 1 долар даюць 3 злотыя 28 грошаў, то на рынку — 3.30. Больш таго, з супрацоўнікамі "кантор" можна таргавацца, і, калі, напрыклад, здаеш больш-менш вялікую суму, то дадуць ужо і больш "златовак". Адным словам, працуюць па гнуткай схеме і курс можа змяніцца літаральна праз некалькі хвілін пасля таго, як адышоў ад акенца "канторы".

Другі плюс беластоцкага рынку — тут можна купіць усё што заўгодна. Ад адзення і абутку, бытавой тэхнікі да дробязяў, без якіх у гаспадарцы ніяк.

І цэны, безумоўна, адрозніваюцца ад тых, што я пабачыў на сталічным рынку на "Дынама". Сведчанне таму — машыны з беларускімі нумарамі на беластоцкім рынку ды руская мова тут і там (трэба сказаць, што ў асноўнай большасці аўтамабілі — з нумарамі гродзенскага рэгіёна).

На самым уваходзе беларускіх прадстаўнікоў "шопінгу" сустракаюць невялікія аптовыя павільёны. Гэта з тых павільёнаў мы купляем пасля ў сябе дома польскія шкарпэткі, ручнікі і гэтак далей. Людзям, якія бяруць тавар оптам, усё абыходзіцца значна танней. Пры гэтым прадпрымальнікі "затавараваюцца" дзесьці з шасці гадзін раніцы. Забіваюць мікрааўтобусы пад завязку. Правозіць праз мяжу можна толькі 50 кілаграмаў, але за сабой у дарогу бяруць бабулек, на якіх і распісваюць дадатковую вагу. Тыя таксама маюць з гэтага свой "навар".

У 8—10 раніцы на рынак пад'язджаюць тыя беларусы, хто вырашыў набыць нешта не на продаж, а для сябе. Цэны на асобныя тавары ў разы меншыя, чым у Беларусі. Напрыклад, 4,8 кг польскага пральнага ўніверсальнага парашку можна набыць за 15 злотых (36 тысяч беларускіх рублёў). Садова-паркавыя свяцільні — накапляльнікі сонечнага святла каштуюць 2,50—4 злотыя за штуку (6—10 тысяч). У нас такія прадаюцца па 45—80 тысяч.

На рынку ў Беластоку цудоўны мясцовы трыкатаж, адзенне і абутак. Польскія мужчынскія і жаночыя туфлі — у сярэднім 25—35 долараў (у нас — 50—60), джынсы — каля 20 у.а. (40—50), жаночыя сумкі са скуразамяняльніка скуры — 7—23 (40—60), летнія майкі — 7—15 долараў (20—30).

Асобная размова пра цэны на тавары для дзяцей у іх і ў нас. Калі глядзіш на кошты ў Мінску і ў Польшчы, складваецца ўражанне, што беларусы — супербагатыя людзі. Веласіпед-каляска ў суседняй краіне каштуе 40 долараў, а на тым жа "Дынама" — 80—100, летняя куртка для дзяўчынкі — 7—12 (30—50), дзіцячае аўтакрэсла польскай вытворчасці — 48 у.а. (65—70), лялька — 7 (20).

...Памятаю, гадоў 20 таму, калі Польшча толькі пачынала адыходзіць ад пабудовы сацыялізму, беларусы вазілі прадаваць у суседнюю краіну танныя тавары. Сёння там купляюць. Дарэчы, пры такіх цэнах сярэдні заробак у Польшчы 1150 "зялёных" — амаль у тры разы больш, чым у Беларусі.

*"Як там ваш эканамічны цуд?"* — усміхаецца паляк-гандляр і беларусам — "ахвярам" гэтага "цуду" — робіць зніжку... Беларусаў там любяць. Яны таксама — рухавікі мясцовай эканомікі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

*Мінск—Беласток—Мінск.*

ПАЛІТКУХНЯ

# Нуль з 68...

Ніводная з 68 заявак, якія былі пададзены па ўсёй краіне актывістамі Аб'яднанай грамадзянскай партыі на правядзенне пікетаў "За выбары без "Лукашэнкі", мясцовымі органамі ўлады задаволена не была...

Нагадаем: пасля прайшоўшага не так даўно справаздачна-выбарчага з'езда АГП партыя абвясціла кампанію "За сумленныя выбары без "Лукашэнкі". Актывісты АГП збіраліся ў чарговы раз інфармаваць насельніцтва аб тым, што любая выбарчая кампанія не можа быць адкрытай і празрыстай, пакуль краінай кіруе Аляксандр Лукашэнка.



Як гэтага патрабуе закон, сябры АГП падалі ажно 115 заявак на правядзенне пікетаў з адпаведнай тэматыкай па ўсёй краіне. 68 з іх меркавалася правесці да 15 мая, астатнія — у чэрвені. Аднак ніводная з 68 заявак не задаволена.

*"Усе адказы нагадваюць адпіскі,* — гаворыць намеснік старшыні АГП Васіль Палякоў. — *Працытую толькі адзін з іх. Намеснік старшыні Добрушскага раённага выканаўчага камітэта спадар Лысенка адказаў: "Во исполнение пункта 2.2.4 Указа Президента Республики Беларусь от 26 марта 1998 года №157 15 мая установлен День семьи. В соответствии с планом-графиком основных общественно-культурных мероприятий в Добрушском районе на 2012 год 15 мая на набережной реки Ипуть с 14 до 18 будет проводиться мероприятие, посвященное Дню семьи.*

*В соответствии со ст.9 Закона Республики Беларусь "О массовых мероприятиях" "Запрещается проведение одновременно нескольких массовых мероприятий в одном месте или по одному маршруту движения".*

У Брэсце адмовы былі абгрунтаваны тым, што ў адной з заявак было пазначана месца, не прызначанае для правядзення пікетаў, а заяўкі на правядзенне ў дазволеных месцах не задавальняліся на падставе правядзення ці то футбольных спаборніцтваў, ці то мерапрыемстваў, прысвечаных усё таму ж Дню сям'і.

Заяўку на правядзенне пікета ў Мінску падаваў старшыня АГП Анатоль Лябедзька. Ён прасіў дазволу зладзіць пікет 15 мая па вуліцы Лесі Украінкі, 22. Намеснік старшыні Мінгарвыканкама спадар Карпенка не задаволіў патрабаванне Лябедзькі: маўляў, у гэты дзень па ўказаным адрасе будуць праводзіцца працы па рамонце і стварэнні новых парковачных месцаў. Лябедзька не паверыў афіцыйнаму дакументу і на ўласныя вочы вырашыў упэўніцца, ці будуць праводзіцца нейкія працы па адрасе, дзе было заяўлена пікетаванне. *"Ці варта казаць, што ніякага рамонту ці стварэння новых парковачных месцаў не было?* — гаворыць Анатоль Уладзіміравіч. — *Таму, лічу, ёсць усе падставы, у першую чаргу маральныя, зрабіць выснову, што ў населеных пунктах і гарадах, дзе нам было адмоўлена ў пікетах, кіруюць, так бы мовіць, члены партыі хлусоў і бандзюганаў. Больш іх ніяк назваць нельга. Калі людзі, якія займаюць высокія пасады, з'яўляюцца намеснікамі старшыняў органаў выканаўчай улады, бяруць на сябе функцыю хлусіць... Я прагназую, што і на тыя 40 заявак, якія пададзены на пікетаванне ў чэрвені, адказ чыноўнікаў будзе аналагічным — на любых падставах не дазваляць. Гэта і ёсць адказ улады на пытанне, чаго нам усім (асабліва тым, хто збіраецца ісці на гэтыя "выбары" да канца) ад гэтых выбараў чакаць... Улада ўжо зараз, на падступах да выбарчай кампаніі, не дазваляе нават мінімальнай камунікацыі з людзьмі, таму можна здагадвацца, што будзе з тымі кандыдатамі, якія будуць займаць прынцыповую пазіцыю..."*

Тым не менш актывісты АГП будуць абскарджваць рашэнне аб забароне пікетаў у судовых інстанцыях...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

# *У чаканні крэдыту...*

Міністэрства фінансаў разлічвае ў найбліжэйшы тыдзень канчаткова ўзгадніць пазіцыі з Антыкрызісным фондам (АКФ) ЕўрАзЭС, вынікам чаго будзе выдзяленне Беларусі трэцяга траншу крэдыту фонду ў памеры 440 млн долараў.

*"На наступным тыдні мы будзем сустракацца са спецыялістамі Антыкрызіснага фонду, з кіраўніцтвам Міністэрства фінансаў Расійскай Федэрацыі, з тым каб канчаткова ўзгадніць нашы пазіцыі",* — паведаміў БелаПАН міністр фінансаў Андрэй Харкавец. Беларускі бок, паводле яго слоў, разлічвае на станоўчы вынік. Праект ліста аб дзеяннях урада і Нацыянальнага банка ў сферы грашова-крэдытнай палітыкі *"па апошняй версіі Міністэрства фінансаў, максімальна набліжанай да прапаноў Антыкрызіснага фонду",* накіраваны ў АКФ і зараз актыўна вывучаецца і аналізуецца, сказаў міністр.

НАДВОР'Е

# *Ідзе пацяпленне*

Сёння, праўда, як паведамляюць сіноптыкі, будзе дажджліва. Тэмпература паветра ўдзень складзе 12—19 градусаў вышэй за нуль.

А субота ў Беларусі чакаецца пераважна без ападкаў, на надвор'е будзе аказваць уздзеянне прахалодны антыцыклон з Заходняй Еўропы. Тэмпература паветра ноччу будзе плюс 2—8 градусаў, на паўднёвым усходзе, калі воблачнасць захаваецца, прагназуецца да 10 градусаў цяпла. Па паўночна-заходняй палове пры слабым ветры і бясхмарным небе на глебе і месцамі ў паветры чакаюцца замаразкі да нуля — 3 градусаў. Днём паветра прагрэецца да 16—22 градусаў.

У нядзелю ўплыў антыцыклону пачне слабець, і зноў усталююцца паўднёвыя вятры. З кожным днём будзе рабіцца цяплей. Месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, у ранішнія гадзіны ў некаторых месцах, блізкіх да вадаёмаў, могуць утварыцца непрацяглыя туманы. Начная тэмпература паветра складзе плюс 4—10 градусаў, па паўднёвым усходзе краіны — 11—15 градусаў цяпла. Тэмпература паветра днём будзе ў асноўным плюс 20—26.

БЕСПРЕДЕЛ

Николай КОЗЛОВ:

# «Кто-то должен быть осужден...»

*Подполковник милиции в запасе Николай Козлов повторно обратился в прокуратуру Московского района Минска. Он требует привлечь к ответственности сотрудников милиции, которые сфальсифицировали в отношении него рапорт, по сути — совершили преступление.*

Эта история хорошо известна читателям "Народной Воли". Началась она еще в прошлом году. 19 декабря Николай Козлов без всяких объяснений и видимых причин был задержан в Центральном районе, на пешеходном переходе у Октябрьской площади, а позже сотрудники милиции указали в рапорте, что задержали его совершенно в ином месте — у Красного костела и якобы за то, что он ругался матом. На основании этого рапорта подполковника милиции в запасе судья Московского районного суда Минска **Елена Черняк** осудила на пять суток ареста. Выйдя из следственного изолятора, Николай Козлов решение Московского суда обжаловал в Минском городском суде, куда представил показания четырех свидетелей, показания которых подтверждали, что в рапорте указаны недостоверные сведения. Однако судья **Владимир Хробастов** оставил без изменения решение суда Московского района.

У Николая есть время, чтобы обжаловать и это решение. Но он пытается привлечь к уголовной ответственности милиционеров **Бирюлю и Гугнюка**, которые, как он утверждает, сфальсифицировали милицейский рапорт.

Еще 21 декабря прошлого года Николай Козлов отправил соответствующее заявление в прокуратуру Московского района Минска. Однако, как рассказывал Николай в интервью нашей газете, он получил из прокуратуры ответ, в котором утверждалось, что его заявление направлено для проведения проверки в управление собственной безопасности МВД. А оттуда пришло сообщение, что 12 января 2012 года оно направлено в управление охраны правопорядка ГУВД Мингорисполкома. С тех пор о судьбе заявления Николаю Козлову ничего не известно. То есть все мыслимые и немыслимые сроки, в течение которых заявление по закону должно было быть рассмотрено, прошли.

*"До сих пор меня никто не удосужился вызвать, опросить, проверить мои доводы, хотя я четко написал, что требую не просто разобраться, а привлечь виновных к уголовной ответственности*, — говорит бывший сотрудник милиции. — *Но я не отступлю. Я считаю, что кто-то должен быть осужден. Я вправе требовать: пусть привлекают меня, если считают, что я кого-то оговариваю, или пусть привлекают виновных, тех, кто совершил преступление в отношении меня. Сейчас в МВД новый руководитель, в Генпрокуратуре до такой степени заботятся об исполнении законности в стране, что предупредили группу "Ленинград" о том, что ненормативная лексика в общественных местах классифицируется в Беларуси как хулиганство. Так может, начальник управления по надзору за исполнением законодательства и законных правовых актов Генпрокуратуры* ***Павел Родионов*** *заинтересуется моим случаем, выяснит, как исполняют законы люди в погонах, которые откровенно игнорируют мое заявление?"*

На днях Николай Козлов отправил в прокуратуру Московского района повторное заявление, а также копии — в МВД, начальнику третьего управления ГУСБ **А.А.Маныло** и в ГУВД Мингорисполкома на имя руководителя столичной милиции **А.П.Барсукова.**

*"Считаю необходимым* ***повторно*** *потребовать рассмотреть мое заявление по существу и привлечь к установленной законом ответственности виновных лиц"*, — написал Николай Козлов.

В этой истории, как в капле воды, видна суть всей политической и правовой системы нашей страны. Николай Козлов — не рядовой гражданин, он — вчерашний сотрудник уголовного розыска, подполковник милиции. Жизнь у него складывалась нормально до того дня, когда в 2008 году ему выпало дежурство на одном из столичных избирательных участков во время досрочного голосования в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь. Закрой он глаза на махинации с бюллетенями, о которых рассказывала "Народная Воля" накануне последних президентских выборов в Беларуси, — может, уже генералом был бы. Но Николай Георгиевич не поступился совестью, обнародовал факт преступления на всю страну. И после этого в его жизни начались неприятности. Мало того что пришлось уйти со службы, дело дошло до ареста...

Хочется верить, что справедливость в отношении подполковника милиции в запасе Николая Козлова восторжествует. Но когда?

**Мария ЭЙСМОНТ.**



## Сёння будзе разгледжана касацыйная скарга па справе Сяргея Каваленкі

Актывіст КХП—БНФ Сяргей Каваленка знаходзіцца ў віцебскім СІЗА, дзе чакае выніку разгляду касацыйнай скаргі на рашэнне суда Першамайскага раёна Віцебска, згодна з якім ён асуджаны на 2 гады і 1 месяц пазбаўлення волі за парушэнне умоў адбывання хатняй хіміі, да якой яго асудзілі за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на навагоднянй ёлцы.

*"У мяне ёсць вялікія сумненні наконт таго, што Сяргея прывязуць у суд на разгляд касацыі,* — сказала карэспандэнту "Народнай Волі" жонка вязня Алена. — *Хаця і муж, і ягоныя адвакаты хадайнічалі пра гэта. Пасля пераводу мужа з "Навінак", дзе ён па рашэнні суда праходзіў комплексную псіхіятрычную экспертызу, мы з ім не бачыліся. Мне тройчы адмаўлялі ў спатканні з Сяргеем у СІЗА, матывуючы гэта тым, што да разгляду касацыйнай скаргі гэта не прадугледжана.*

*Днямі я атрымала ліст ад Сяргея. Ён датаваны 9 мая. У лісце Сяргей піша, што ў віцебскім СІЗА яго змясцілі ў адзіночную, вельмі вузкую камеру. Напісаў, што 8 мая аднавіў галадоўку, патрабуючы свабоду ўсім палітвязням і незалежнасці судоў... Пра здароўе напісаў няшмат: паведаміў, што важыць каля 60 кілаграмаў у адзенні і не вельмі добра пачуваецца. Падазрае, што захварэў на цукровы дыябет..."*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

НУ І НУ!

## Беларуская школа без мовы і культуры

*Надзеі на тое, што беларуская школа зноў увядзе абавязковае вывучэнне гісторыі і геаграфіі Беларусі на беларускай мове, не спраўдзяцца.*

Аб гэтым журналістам паведаміў намеснік міністра адукацыі **Казімір Фарыно**, распавядаючы аб тых працэсах, што сёння адбываюцца ў сярэдняй школе. Па словах намесніка міністра, краіна не можа дазволіць сабе агульнага пераводу навучання нават па некалькіх прадметах на беларускую мову. Маўляў, трэба выдаць падручнікі, падрыхтаваць базу, а гэта нятанна і патрабуе складанай працы.

Чуткі аб тым, што ўжыванне беларускай мовы ў школах пашырыцца, з'явіліся не на пустым месцы. Аб тым, што школьнікі павінны вывучаць геаграфію і гісторыю на роднай мове, у адным з інтэрв'ю заявіў міністр адукацыі **Сяргей Маскевіч**. Чыноўнік сцвярджаў, што такія змены павінны адбыцца як мага хутчэй. Тлумачыць, чаму гэтага не адбудзецца, прыйшлося не міністру, а яго калегу.

*"У наступным навучальным годзе ніякіх новых рэформ і эксперыментаў у сярэдняй школе не будзе,* — падкрэсліў Фарыно. — *У сваім Пасланні беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу кіраўнік дзяржавы выразна вызначыў, што ўвагу неабходна засяродзіць на павышэнні якасці адукацыі з выкарыстаннем сучасных інфармацыйных тэхналогій"*.

Не вернецца ў школьныя класы і такая дысцыпліна, як "Сусветная мастацкая культура". Далучацца да скарбаў сусветнага мастацтва намеснік міністра прапанаваў на факультатывах і ў межах іншых дысцыплін.

### КАМЕНТАРЫЙ

## Алег ТРУСАЎ, старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы": "Спадзяюся, што пазіцыя Міністэрства адукацыі да верасня яшчэ зменіцца"

Чаму такое простае рашэнне — вывучаць гісторыю і геаграфію па-беларуску — даецца ўладам так цяжка і выклікае столькі спрэчак? Над гэтымі пытаннямі "Народная Воля" папрасіла паразважаць кандыдата гістарычных навук, старшыню ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" **Алега Трусава**.

*"Зараз у Беларусі ёсць групоўка чыноўнікаў, якія скіравалі свае позіркі ў бок Масквы*, — выказаўся спадар Трусаў. — *Ім не патрэбны нацыянальныя мова і сімволіка, ім трэба толькі чарговая падачка ад Расіі. Між тым ёсць у міністэрствах і тыя, хто хоча нацыянальнай незалежнасці і дбае пра яе. Зараз бачна, што гэтае супрацьстаянне у кабінетах — прыкладна 50 на 50.*

*Рашэнне не ўводзіць вывучэнне гісторыі і геаграфіі па-беларуску — часовая перамога прамаскоўскіх чыноўнікаў. З прыходам да ўлады Пуціна яны асмялелі, мусіць, спадзяюцца на тое, што Беларусь стане часткай Расіі, а яны атрымаюць нейкія высокія пасады. Але гэта піррава перамога, яна не працягнецца доўга. Спадзяюся, што пазіцыя Міністэрства адукацыі да верасня яшчэ зменіцца"*.

Але як жа зменіцца сітуацыя, калі, па словах намесніка міністра адукацыі Казіміра Фарыно, няма належнай колькасці падручнікаў? Няўжо становішча можна выправіць за тры летнія месяцы?

*"Добрыя падручнікі па гісторыі і геаграфіі Беларусі на беларускай мове ёсць, проста іх мала,* — распавёў Алег Анатольевіч. — *Можна перавыдаць іх большым накладам. Гэта нескладана зрабіць пры жаданні.*

*Справа ў тым, што ініцыятыва сутыкнулася з супраціvам тых людзей, што не хочуць жыць у Беларусі, а марацьпасяліцца ў губерні.*

*Між тым, паўтаруся, да верасня яшчэ многае можа змяніцца. Расія ніколі не праглыне Беларусь, бо мы жывём у XXI стагоддзі і такая інтэграцыя проста немагчымая"*.

**Марыя БУДНІК.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Дырэктар хаваецца, намеснікі затрыманы

**У прэсе паведамлялася, што кіраўніцтва Аршанскага мясакансервавага камбіната абрабавала прадпрыемства на 2 мільёны долараў. Цікава, іх судзілі ці не?**

**І.Сямёнава, Орша.**

Так, сапраўды, гісторыя з Аршанскім мясакансервавым камбінатам, а дакладней кіраўніцтвам прадпрыемства, якое праз падстаўныя фірмы ў Расіі выводзіла грошы з камбіната, мела вялікі рэзананс. Справа ў тым, што ў маі мінулага года на камбінаце ўспыхнуў пажар, у якім загінулі чатыры чалавекі. Пачалося разбіральніцтва, падчас якога высветлілася, што кіраўніцтва мясакансервавага камбіната прадставіла ў пракуратуру скажоныя даныя аб тым, якую шкоду прычыніў пажар прадпрыемству. Суму шкоды яны панізілі амаль у 30 разоў. Аднак праваахоўныя органы не пацвердзілі сувязь пажару з махінацыямі, але прывялі іншыя шакіруючыя факты: кіраўніцтва прадпрыемства вывела з актываў камбіната 2 мільёны долараў!

*— Службовыя асобы ААТ "Аршанскі мясакансервавы камбінат" на чале з генеральным дырэктарам арганізавалі схему вываду грашовых сродкаў за межы Беларусі праз падстаўныя фірмы ў Расійскай Федэрацыі,* — цытавалі некаторыя СМІ прэс-сакратара УКДБ па Віцебскай вобласці Аляксея Рацкуна. — *Такім чынам яны вывелі з актываў камбіната каля двух мільёнаў долараў, тым самым прычыніўшы шкоду прадпрыемству ў асабліва буйным памеры. Акрамя таго, па загадзе генеральнага дырэктара была наўмысна скажоная дзяржаўная справаздачнасць на суму звыш 20 мільярдаў рублёў.*

У дачыненні да генеральнага дырэктара Аршанскага мясакансервавага камбіната ўзбуджаны крымінальныя справы адразу па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса Беларусі — злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі, службовы падлог. У дачыненні да першага намесніка генеральнага дырэктара ўзбуджана крымінальная справа па ч.2 арт.427 (службовы падлог), у дачыненні да былога намесніка генеральнага дырэктара па маркетынгу і збыце — па ч.3 арт. 426 (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў). Затрыманы абодва намеснікі, а цяпер ужо былы генеральны дырэктар камбіната хаваецца ад следства.

Суда па гэтай справе яшчэ не было. Да гэтага часу вядзецца следства.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

З-ЗА КРАТАЎ

Лідзія АЎТУХОВІЧ:

## «Як мой сын у турме паправіць сваё здароўе?»

Маці палітвязня Мікалая Аўтуховіча 17 мая споўнілася 73 гады. Лідзія Юльянаўна падзякавала "Народнай Волі" за віншаванні і сказала:

*— Для мяне самы вялікі падарунак і самыя лепшыя пажаданні зводзяцца да аднаго — каб мой сын выйшаў на волю. Я кожны дзень толькі пра яго і думаю. Больш за ўсё непакоюся за яго здароўе. Праблемы ў яго і са страўнікам, і спіна баліць. І галадоўка адбілася на здароўі, і тое, што ён зараз не на курорце, а ў турме. Я вельмі спадзяюся на амністыю. Малюся кожны дзень, усё прашу Бога дапамагчы, даць моцы вытрымаць усё.*

*Я вось толькі што прыехала з лецішча. А тут ліст ад яго, у якім ён просіць мяне паменш там на градкі налягаць. А як жа я не буду? Я ж хачу, каб ён выйшаў і пакаштаваў свой агурочак, памідорчык... Яму ж патрэбны вітаміны. Усё чакаю і чакаю яго. Колькі ж з яго будуць здзекавацца...*

Дарэчы, Лідзіі Юльянаўне Аўтуховіч дазволілі кароткачасовае спатканне з сынам. Жанчына з радасцю падзялілася марамі, што хутка пабачыць сына і паразмаўляе з ім, а калі пашчасціць, то і перадасць яму нейкія пачастункі.

Нагадаем: Мікалая Аўтуховіча арыштавалі 8 лютага 2009 года і пакаралі зняволеннем на 5 гадоў і 2 месяцы, абвінаваціўшы яго ў захоўванні і перавозцы пяці патронаў і паляўнічай стрэльбы. За гэты час ён адчуў на сабе ціск з боку турэмнай адміністрацыі, трымаў галадоўку і нават ускрываў сабе вены. Палітвязня перавялі з Івацэвіцкай калоніі ў крытую турму Гродна.

Гэта не першае зняволенне прадпрымальніка. Ён трапіў за краты ў 2006 годзе. Тады яго абвінавацілі ва ўхіленні ад выплаты падаткаў са стратамі для бюджэту ў асабліва буйным памеры і за ажыццяўленне прадпрымальніцкай дзейнасці без рэгістрацыі і ліцэнзіі. Згодна з прысудам, Аўтуховіч павінен быў правесці за кратамі тры з паловай гады. Але пад ціскам міжнароднай супольнасці на пачатку 2008 года турэмны рэжым замянілі на папраўчыя работы па месцы жыхарства.

Мікалай Аўтуховіч ваяваў у Афганістане і мае ордэн Чырвонай Зоркі, два медалі — "За адвагу" і "За баявыя заслугі".

## Ніколі ні на што не скардзіцца, каб не хвалявацьмаці

Усе маці хвалююцца за сваіх сыноў, не выключэнне і маці Эдуарда Лобава. Нядаўна яна мела тэлефонную размову з сынам.

— *Ён мне каторы раз сказаў, што ў яго ўсё нармальна. Ён заўсёды так кажа, каб я не хвалявалася,* — расказала Марына Лобава. — *Потым ужо я даведваюся пра некаторыя нюансы, але ён сам мне ніколі не скардзіцца ні на ўмовы ўтрымання, ні на нейкія эксцэсы. Супакойвае і ўсё. Цяпер мы абмяркоўвалі, што трэба пакласці ў медыцынскую бандэроль. Я яму такую бандэроль дасылала восенню. Тады я даслала вітаміны і розныя антывірусныя лекі. Цяпер жа трэба даслаць розныя кампаненты, каб запламбіраваць зуб. Спачатку ўсё спадзяваліся на хуткае вызваленне, а цяпер жа такая сітуацыя, што надзей ніякіх няма. А зуб усё ж лячыць трэба. Там ёсць медык, ёсць абсталяванне, праблема толькі ў рэчывах для пломбы.*

*Са мной сын ніякую амністыю не абмяркоўвае, хаця там у іх гэта самая папулярная тэма цяпер. Але ён не спадзяецца. І я таксама. Набралася цярпення і проста чакаю, калі выйдзе на волю. У яго ў снежні будзе толькі палова тэрміну пакарання адбытая, так што яшчэ чакаць і чакаць... Ніякага ўмоўна-датэрміновага вызвалення, як я разумею, таксама не будзе. Яму там вынеслі некалькі папярэджанняў, так што гэтага хопіць, каб не вызваляць з-за кратаў. Ён і сам мне пра гэта нічога не кажа, каб лішні раз не кранаць балючую тэму. Я ўжо пра тое малюся, каб хаця далі яму там спакойна, без эксцэсаў, дасядзець.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

БЕЛАРУСЬ—КІТАЙ

## Кітайскіх дэпутатаў чакаюць у Мінску

З 20 па 23 мая ў Беларусі з візітам будзе знаходзіцца дэлегацыя на чале з намеснікам старшыні пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў **Лу Юнсянам**. Пра гэта 17 мая на брыфінгу паведаміў прэс-сакратар МЗС Беларусі **Андрэй Савіных**.

Паводле яго слоў, кіраўнік кітайскай дэлегацыі правядзе сустрэчы з прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаілам Мясніковічам, старшынёй Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Анатолем Рубінавым і старшынёй Палаты прадстаўнікоў Уладзімірам Андрэйчанкам.

ЭХ, ДАРОГІ...

# «Дзяржынкі» новае аблічча...

*Такога "дарожна-развязачнага" буму, як зараз, сталіца ніколі раней не ведала, асабліва ў напрамку Брэст—Варшава—Берлін... Многія звязваюць гэта з чэмпіянатам свету па хакеі ў 2014 годзе. Будзе той чэмпіянат ці не (пытанне завісла ў невядомасці), але тое, што мінчане неўзабаве атрымаюць суперсучасны хайвэй ад Нямігі да "алімпійкі" — ніякага сумнення...*

Яшчэ два гады таму старшыня Мінгарвыканкама **Мікалай Ладуцька** агучыў цану пытання... *"Каб не атрымаць у Мінску сур'ёзнай транспартнай праблемы з арганізацыяй руху,* — тлумачыў ён, — *мы прынялі спецыяльную праграму па будаўніцтве транспартных развязак на бліжэйшыя 10 гадоў. Гэта каласальная праграма коштам больш за 1 мільярд долараў..."*

Вырашэнне праблемы і сапраўды вартае вялікіх "бабак", улічваючы тое, якімі тэмпамі прырастае мегаполіс людзьмі і аўтамабілямі: толькі легкавікоў зараз 650 тысяч, а праз дзясятак гадоў чакайце ўсе 850—900 тысяч, а мо і болей; народу таксама прыбавіцца — да 2 млн чалавек. Ужо цяпер аўтамабільныя заторы сталі звыклымі. Таму не дзіва, што ўлады не на жарт узяліся за гэтыя развязкі, а тут яшчэ і вялікі хакей на носе...

Зразумела, прыярытэт акурат тым аб'ектам, якія на шляху ў Стары Свет — адтуль чакаецца асноўны прыток балельшчыкаў. Калі праспект Дзяржынскага — галоўная магістраль, якая злучае цэнтр горада (Нямігу) з алімпійскай дарогай на Брэст і далей на Захад, то і ўвага яму першаступенная. Якраз на "Дзяржынцы" (скрыжаванне праспектаў Дзяржынскага і Жукава) павінна ўзнікнуць першая ў краіне трохузроўневая развязка. Адначасова гэта будзе і самы доўгі ў горадзе пуцеправод — 460 метраў. Сказаць па праўдзе, ён практычна гатовы — заканчваюцца апрацоўчыя работы...

Як выглядацьмуць развязка і сам праспект Дзяржынскага, калі работы цалкам будуць завершаны? Пра гэта крышку ніжэй, а пакуль зазірнём на будаўнічую пляцоўку, каб усё, як кажуць, на свае вочы...

Штодня праязджаю ўзбоч будоўлі — па старым крузе і далей у напрамку цэнтра, але ўпершыню на сваіх дваіх (праезд пакуль забаронены) падымаюся на трэці ярус новага пуцеправода-моста. На вышыні ветрана, затое ўсё як на далоні: па адзін бок — праспект Дзяржынскага, па другі — Жукава, унізе — дарога ў напрамку Пушкінскага праспекта... І паўсюль людзі, тэхніка, папераджальныя знакі. Хлопцы ў аранжавых камізэльках заняты кожны сваім: фарбуюць, трамбуюць, зварваюць... "Работы яшчэ хапае, — расказвае брыгадзір дарожнікаў Сяргей, — але мусім укласціся ў тэрмін, а можа, і раней... Трэба перакласці асфальт, вымасціць пешаходныя дарожкі тратуарнай пліткай, устанавіць асвятляльныя апоры, потым чарга за разметкай. У любым выпадку ўсё будзе закончана да восені. Думаю, што праезд адкрыецца нават і раней... Затрымка хіба за падземнымі пешаходнымі пераходамі..."

"І як будзе арганізаваны рух аўтамабіляў на развязцы?" — пытаюся ў хлопцаў. "А вельмі проста, — адказвае за ўсіх брыгадзір, — праспект Дзяржынскага пойдзе па самым версе, сярэдні ўзровень злучыць абодва праспекты, а ніжні "паверх" дастанецца маршалу Жукаву..."

З размовы вынікала, што па абодва бакі развязкі будуць тры падземныя пераходы: два — выхады са станцыі метро "Грушаўка" (метро адкрыецца 1 верасня), а трэці ўзводзіцца ў раёне вуліцы Прылукскай. Нязручнасць бадай адна: побач з сярэднім узроўнем развязкі мусяць паставіць два наземныя святлафоры для пешаходаў — па крузе ўжо не папрэш, як раней....

З вышыні добра відаць, як удалечыні будуюць яшчэ адну развязку — на перасячэнні "Дзяржынкі" і вуліцы Алібегава. Яна, праўда, не цягне на ўнікальнасць, затое функцыянальна абяцае быць зручнай — два ўзроўні "разблытаюць" праезд з Паўднёвага Захаду да вуліцы Сямашкі і Гурскага, прычым не перасякаючы праспект Дзяржынскага.



Па словах галоўнага інжынера Упраўлення дарожна-маставога будаўніцтва і добраўпарадкавання **Леаніда Казлоўскага**, ужо выкананы практычна ўсе работы па перабудове інжынерных камунікацый. У бліжэйшы час плануецца пераключыць аўтамабільны трафік з часовымі аб'ездамі на рух па асноўным, пастаянным варыянце... Абноўлены праспект Дзяржынскага, абрысы якога з кожным днём праглядваюцца ўсё ярчэй — васьміпалосная магістраль, па чатыры паласы ў кожным напрамку, а гэта ўжо ўзровень...

Хаця ёсць у гэтым пытанні і песімісты.

*"Трайная развязка на перасячэнні праспектаў Дзяржынскага і Жукава практычна не патрэбна,* — лічыць, напрыклад, старшыня Беларускай асацыяцыі экспертаў і сюрвеераў на транспарце **Юрый Важнік**. — *Прапускная здольнасць гэтага вузла была дастатковай, калі б ім раней правільна распараджаліся. Цяпер, канечне, будзе лепей. Але хто падлічваў, якую выгаду прынясе такі дарагі аб'ект? ...І што будзе на подступах да развязкі? Усё роўна прапускная здольнасць пр.Дзяржынскага будзе вызначацца тымі ж перасячэннямі, якія па-ранейшаму стануць рэгулявацца. Як былі ўлічаны інтарэсы пешаходаў і веласіпедыстаў? Ці не атрымаецца так, што развязка раз'ядная, а не аб'ядная горад?"*

Па шчырасці, хочацца верыць у лепшае. І не таму, што сам жыву ў Маскоўскім раёне, які цяпер увесь перакапаны. Проста новая дарога — заўсёды лепш за старую... Таму ўслед за **Дзмітрыем Яноўскім,** намеснікам галавы маскоўскай адміністрацыі, паўтараю: "*Усе жыхары Маскоўскага раёна чакаюць з нецярпеннем адкрыцця новых станцый метро, якое запланавана на 1 верасня 2012 года. Цяпер наш раён — адна вялікая будоўля. Ёсць цяжкасці з доступам да аб'ектаў інфраструктуры. Але ўсё гэта сыдзе з моманту ўвядзення ў эксплуатацыю метро і транспартнай развязкі на перасячэнні праспектаў Жукава і Дзяржынскага. Палепшацца транспартныя зносіны. Скароціцца час, які людзі трацяць, едучы на працу. Праспект стане адной з самых прыгожых вуліц Мінска..."*

І потым, развязка разам з абноўленым праспектам, роўна як і новыя станцыі метро, — гэта ж не чарговы лядовы палац... Гэта зусім іншы каленкор, бо патрачаныя грошы падаткаплацельшчыкаў — не толькі для выгод аматараў пакоўзацца на лёдзе, але для ўсіх "чыста" людзей...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

